З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

# Нават залатым замежным рублём не ацаніць незалежнасць народа

Дарагая рэдакцыя «Нашага слова», даўно ўжо збіраюся напісаць вам, ды ўсё неяк уласны побыт ды праблемы заміналі. Але зараз вырашыў больш не адкладваць.

Родам я з Брэсцкай вобласці Баранавіцкага раёна, в.Багушы. Жыву на Украіне ўжо 20 год, такі, як кажуць, мой лёс. Спачатку жыў і працаваў у Палтаве, а апошні час на Валыні, у абласным цэнтры Луцк. І ўвесь гэты час мне неабыякавы лёс маёй роднай Беларусі, майго любага народа. Я вельмі перажываю няўдачы і радуюся ўзлёту беларускіх спраў. З самага пачатку, як жыву на Украіне, я намагаўся падтрымліваць сувязь з Беларуссю шляхам выпіскі газет і часопісаў — такіх, як «Літаратура і мастацтва», «Наша слова», «Беларуская думка», «Неман», «Полымя» і іншыя.

Зараз, з другой палавіны 1993 года, сувязь з Беларуссю вельмі ўскладнілася, амаль парвалася. Хадзіў я ў мясцовы «Саюздрук», але там мне сказалі: не марочце нам галавы, са сваімі выданнямі не можам разабрацца, а то яшчэ з беларускімі валтузіцца і г.д. Па каналу «Останкино» пра Беларусь амаль ніякай інфармацыі, але чуў, што беларусы вельмі рвуцца ў рублёвую зону, што беларускае войска будзе ўваходзіць у калектыўнае аб'яднанне войска СНД. Гэта значыць зноў пад расейскага арла і падпарадкоўвацца расейскаму чыноўніку?

Я не палітык, але калі выпала такая магчымасць і, мабыць, апошняя, адрадзіцца Беларусі, роднай мове, гісторыі, культуры і г.д., то чаго самім сунуць галаву ў ярмо, чаго зноў камусьці падпарадкоўвацца. За больш густую баланду, ці за што? Няўжо беларусы такія ўжо недарэкі, што не могуць самастойна працаваць, тварыць ды жыць?

Не мне вам, суродзічы, тлумачыць, што калі Беларусь увойдзе ў тую «зону», то будзе на правах пасынка, а замест суверэннай дзяржавы адродзіцца «Северо-Западный край».

Я за ўсё тое, як у цывілізаваных дзяржаў — за гандаль, за абмен культурнымі, навуковымі набыткамі, за спрошчаны візавы рэжым, але ж каб існаваць самастойным народам і дзяржавай. Хоць інфармацыю атрымліваю зусім бедную і, можа, яно не ўсё і так, але мяне як беларуса яна вельмі ўзрушыла і засмуціла. Ды нават чужым залатым рублём незалежнасць нельга ацаніць, бо гэта такое багацце, якое належыць не толькі сённяшняму пакаленню, але і наступным. Не даруюць такога продажу нашчадкі.

Усяго вам добрага, дарагія суродзічы! З павагай

**І.К.БОГУШ.**
**г.Луцк, Украіна.**

ЖЫЦЦЁ ТАВАРЫСТВА




Дзень 11 траўня 1990 года застанецца знамянальным для Салігорска. Менавіта тады ў вялікай зале мясцовага Дома саветаў адбыўся ўстаноўчы сход Таварыства беларускай мовы. Каля двухсот прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння прыйшлі сюды, каб падзяліцца думкамі, выказаць свой боль за лёс роднай мовы. Мусіць, гэта неардынарная падзея не адбылася б, каб загадзя не была праведзена пэўная падрыхтоўчая праца.

Яшчэ ўвосень 1989 года я паспрабавала падняць пытанне пра стварэнне філіі ТБМ імя Ф.Скарыны ў межах горада і раёна. Як вядома, тады існаваў яшчэ райкам партыі. Сакратар па ідэалогіі Святлана Пекар згадзілася аказаць нам падтрымку і ўдзельнічаць у падрыхтоўцы ўстаноўчага сходу. Але неўзабаве наспелі выбары ў Вярхоўны і мясцовыя саветы. Зразумела, што яе апанавалі іншыя клопаты, райкам ад нашай справы самаўхіліўся.

Я вырашыла ўзяць ініцыятыву ў свае рукі. Быў створаны новы склад аргкамітэта, у склад якога ўвайшлі шахцёры Аляксандр Доўнар, Віктар Бабаед, настаўніца Валянціна Прышчыц, супрацоўніца гарадскога краязнаўчага музея Ларыса Бойка, тагачасная загадчыца гарадскога аддзела культуры Антаніна Сідоранка, журналіст Віталь Мурылёў і інш. Узначаліць камітэт даверылі мне.

Неўзабаве былі аддрукаваны аб'явы і пасведчанні ўдзельнікаў установчага сходу. Пра намер стварыць Салігорскую філію ТБМ мы паведамілі ў рэспубліканскую арганізацыю. Да нас на першы сход прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння Салігоршчыны з Менска прыехаў сябра Рэспубліканскай рады Таварыства пісьменнік Уладзімір Дамашэвіч. Кульмінацыйным момантам сходу стала выступленне Лявона Шпакоўскага, які прачытаў свае шчырыя, пранікнёныя вершы пра родную мову:

*Скрозь па краіне і нават у Глуску*
*Дзеці гавораць толькі па-руску.*
*Нашы Надзейкі, Ганулькі і Вовы*
*Сёння не ведаюць роднае мовы.*
*Мовы, валодаўшай Слуцкам і Прусамі,*
*Мовы, зрабіўшае нас беларусамі,*
*Мовы Вялікага Княства Літоўскага,*
*Мовы Скарыны і Каліноўскага,*
*Мовы, якую ахоўвалі дбала*
*Лёсік, Гарэцкі, Насовіч, Купала,*
*Мовы, для чыстай паэзіі годнай,*
*Мовы прыгожай, спрадвечнай, народнай...*
*Прыкра і шкода, што ў нашай краіне*
*Родная мова скора загіне!*

Адчувалася, што гучыць голас прафесійнага мастака слова. Але мы не ўяўлялі, што перад намі — Лявон Случанін. Праз некаторы час, зацікавіўшыся лёсам гэтага чалавека, мы даведаліся, праз якое пекла сталінскіх ГУЛАГаў ён аж двойчы прайшоў.

Устаноўчы сход абраў кіруючыя органы рэгіянальнай арганізацыі. У склад аб'яднанай раённа-гарадской рады ўвайшлі настаўнікі Ніна Галубовіч, Ала Тумуль, Валянціна Прышчыц, Сяргей Ільюшчыц, загадчыца дзіцячага садка Ніна Фралова, паэт Хведар Гурыновіч, журналісты Віталь Мурылёў і Аляксей Кур'ян, загадчык аддзела адукацыі Мікалай Дайгод, супрацоўнікі вытворчага аб'яднання «Беларуськалій» Мікалай Новік і Уладзімір Масакоўскі, пенсіянер Аляксей Пятровіч, бібліятэкар Галіна Лашук і іншыя.

Стварэнне арганізацыі ТБМ напачатку было з прыхільнасцю сустрэта мясцовымі ўладамі. Па ініцыятыве нашай рады на сумесным пасяджэнні выканкама ў студзені 1991 года быў разгледжаны і прыняты план мясцовых мерапрыемстваў па рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы развіцця моў у Рэспубліцы Беларусь. Пытанні выканання Закона аб мовах разглядаліся на пасяджэннях рады ТБМ і выканкамаў. Дзякуючы намаганням актывістаў ТБМ у Салігорску адкрылі кіёск па продажу выданняў Таварыства і літаратуры на гістарычную тэматыку, твораў беларускіх пісьменнікаў. Неабходна адзначыць, што гарвыканкам пайшоў нам насустрач. Нас вызвалілі ад падаткаў за арэнду зямлі пад кіёск, за выдачу ліцэнзіі на права гандлю.

Шкада, праўда, што паміж радай і гарвыканкамам адразу не была дасягнута згода па некаторых пытаннях. Напрыклад, дагэтуль наша філія не мае свайго памяшкання. Не пайшлі ўлады нам насустрач і тады, калі рада выступіла з ініцыятывай стварыць у Салігорску нядзельную філію Беларускага гуманітарна-адукацыйнага цэнтра. Некаторае напружанне ў адносінах паміж радай і выканкамам існуе і зараз. Але тым не менш справы па ўвядзенні ва ўжытак роднай мовы рухаюцца, хоць і маруднымі тэмпамі. У дзевяці школах горада навучэнцы пачатковых класаў паспяхова авалодваюць беларускай мовай пры вывучэнні некаторых прадметаў. Засмучае толькі той факт, што аддзел адукацыі яшчэ ніводнага разу за час дзеяння Закона аб мовах не праводзіў атэстацыі кіруючых кадраў на прадмет валодання імі дзяржаўнай мовай нашай рэспублікі, хоць наконт гэтага існуе пэўная пастанова Міністэрства адукацыі. Недарэчным, на маю думку, з'яўляецца і тое, што нават сёлета аддзел адукацыі гарвыканкама рабіў прызначэнне на пасады намеснікаў дырэктараў беларускамоўных школ людзей, якія не валодаюць дзяржаўнай мовай.

І ўсё ж парасткі беларушчыны на Салігоршчыне набіраюць рост. Дарогі ўжо вітаюць кожнага беларускамоўнымі найменнямі тутэйшых населеных пунктаў. Паціху прыходзіць беларуская мова і ў гандлёвыя кропкі, ва ўстановы культуры. Гучыць яна, хоць і не заўсёды, пры правядзенні культурна-масавых мерапрыемстваў. Адчуваецца, як на салігорскай зямлі расце цікавасць да гісторыі нашай Радзімы, усё больш і больш увагі звяртаецца на кнігі беларускіх аўтараў.

Наша рада ТБМ выступіла з ініцыятывай заснаваць газету, на старонках якой перад чытачамі паўстала б гісторыя нашага краю, апавядалася б пра знакамітых людзей — змагароў за незалежнасць Беларусі, асвятляліся б падзеі дня сённяшняга. З дапамогай таварыства з абмежаванай адказнасцю «БелПВТТА», якое згадзілася фінансаваць газету, мы змаглі ажыццявіць гэтую задуму. Выпушчаны ўжо чатыры нумары выдання, якое носіць імя гордай крывіцкай князёўны, — «Рагнеда», неўзабаве выйдзе і пяты.

Падсумоўваючы вынікі чатырохгадовай дзейнасці Салігорскага ТБМ, можна сказаць, што пэўныя набыткі яно мае. Нам не будзе сорамна перад нашчадкамі.

**Марыя МАЦЮКЕВІЧ,**
**старшыня Салігорскай аб'яднанай раённа-гарадской рады ТБМ імя Ф.Скарыны.**

МЕРКАВАННІ

## Мікола Капыловіч

# Усе мовы — ад Бога

Я ЎВАЖЛІВА сачыў за перадвыбарчай барацьбой, слухаў па радыё і тэлебачанні выступленні і прамовы прэтэндэнтаў на самы высокі пост у нашай маладой дзяржаве. І прызнаюся: цяжкія думкі ахапілі мяне, бо чатыры з шасці кандыдатаў на прэзідэнцкую пасаду не абмовіліся ніводным беларускім словам, якому нададзены ранг дзяржаўнай мовы.

Больш таго, парушаючы этычныя нормы і канстытуцыйны закон аб дзяржаўнасці мовы, гэтая чацвёрка гарантавала сваім выбаршчыкам, што ў выпадку, калі яны сядуць у прэзідэнцкае крэсла, то ўвядуць у краіне двухмоўе. Гэта значыць, нададуць нашай мове той самы статус, які яна мела пры камуністычным рэжыме. Ні больш ні менш!

Назавіце хоць адну дзяржаву, дзе б прэтэндэнту на прэзідэнцкую пасаду прыйшло ў галаву такое! Калі б ён паабяцаў сваім выбаршчыкам, што будзе рабіць усё, каб не берагчы, а вынішчаць дзяржаўную мову, то яго палічылі б вар'ятам. Ці знойдзеце вы хоць адну краіну ў свеце, дзе б кандыдаты ў прэзідэнты так грэбліва ставіліся да мовы карэннага насельніцтва? А дзе, скажыце, тая унікальная дзяржава, якой кіруе прэм'ер-міністр, які грэбуе мовай свайго народа? Ёсць такая дзяржава. Гэта, на жаль, у нас.

Возьмем другога рускамоўнага кандыдата, А.Лукашэнку. У яго выступленнях гучала нават не знявага, а здзек над мовай народа. А ці дастаткова ведае, урэшце, ён рускую мову? Не! Гаворыць, напрыклад, па-руску: «чытае», «яшчо», «абызацільно», «абшчэсцьвеносць» і г.д. Бяру «логіку» ягоных прамоў. І, паверце, не магу ніяк уцяміць: як ён будзе весці дыпламатычныя перамовы з кіраўнікамі іншых краін? На мове суседзяў?

А Кебіч? У час перадвыбарчага марафону па тэлевізары паказалі аўтабіяграфічны фільм пра жыццё і дзяржаўную дзейнасць Вячаслава Францавіча. Запомнілася, запала ў душу з гэтага тэлетвора маці нашага прэм'ера. Дасціпная, прыгожая ў сваім сялянскім харастве, як хораша яна гаварыла на роднай беларускай мове! Але сын звяртаўся да маці па-расійску! Вось яна, рэальнасць!

Пра Дубко і Новікава, калі прыгадваем іх цьмяна-абяцальныя прамовы, зусім не хочацца нічога казаць: у іх не зварухнулася нават думка пра нацыянальнае адраджэнне народа, якім яны намерыліся кіраваць. Наадварот, даўно выспела жаданне скасаваць нават цяперашні, амаль папяровы суверэнітэт Беларусі.

Што гаварыць тады пра дробных чыноўнікаў і клеркаў, якія кіруюць мясцовымі саветамі і адчуваюць сябе гаспадарамі абласцей, гарадоў і раёнаў... Праўда, ёсць і прыемныя выключэнні. Гэта перш за ўсё Маладзечанскі гарвыканкам. Тут спадар Г.Д.Карпенка, старшыня гарсавета, падабраў сабе сапраўды дэмакратычную і нацыянальна свядомую каманду, якая робіць шмат добрага, каб адрадзіць у горадзе гістарычную спадчыну, родную мову. Пытанне аб выкананні Закона аб мовах ва ўсіх установах горада не раз разглядалася на пасяджэннях гарвыканкама. І гэта дае прыемныя вынікі: вуліцам вернуты іх гістарычныя назвы, шырока прапагандуецца родная мова, на ёй вядзецца справаводства ў структурах выканкама. Пытанне аб выкананні Закона аб мовах тут узята пад строгі кантроль, ёсць пры выканкаме пасада інспектара, які адказвае ў горадзе за адраджэнне роднага слова. Ды і гарадское Таварыства беларускай мовы тут шмат робіць, каб наша родная мова гучала часцей на прадпрыемствах, у школах і ўстановах горада.

Адраджэнню беларускай мовы ў Маладзечне спрыяе і тое, што тут знайшліся сапраўдныя патрыёты роднага краю: кіраўнік спраў гарвыканкама Валеры Костка, інспектар гарвыканкама Алесь Капуцкі, настаўнік Лявон Цімохін, рабочы Тадэвуш Шусціцкі, журналіст Валеры Маркелаў і іншыя. А што робіцца ў напрамку адраджэння беларускай спадчыны і мовы ў саветах іншых гарадоў, мястэчак і вёсак Беларусі? На жаль, мала. А то і зусім нічога. Там часцяком зрываецца выкананне Закона аб мовах. Так званыя «рускамоўныя чыноўнікі» насядаюць на ўсіх сходах: «Не прымаеце двухмоўя — парушаеце правы чалавека». Пачуеш такое і скаланешся. Шаноўныя, а як тады быць з правамі цэлай нацыі? Калі вы за сваё, то мы вас просім як грамадзяне грамадзян зразумець: будзе двухмоўе, дык мы пры цяперашнім становішчы беларускай мовы самі са сваёй ласкі роднае слова зноў зробім нежаданым госцем у роднай хаце. А яно ж, шматпакутнае, паверыла ў адраджэнне, пачало хоць і марудна, але выходзіць на белы свет.

МЕРКАВАННІ

Зараз родная мова гучыць нават у тым асяроддзі, куды раней ёй і ходу амаль не было. Маецца на ўвазе наш Вярхоўны Савет, дзе пэўная частка дэпутатаў пастаянна выступае толькі па-беларуску. Хай не кожны з іх гаворыць пакуль гладка, але з гонарам — дэпутат беларускай дзяржавы!

Некаторым міністрам, партапаратчыкам раней калі і трэба было сказаць некалькі слоў па-беларуску, то памочнікі старанна рыхтавалі гэтыя выступленні, падбіралі прымаўкі. Ды часам з гэтага атрымліваліся анекдатычныя выпадкі. Памятаеце, якія «перлы» можна было пачуць з вуснаў высокапастаўленых асоб: «Таварышы, ежэлі мы паглядзім в зад, дык што там увідзім? Малюнак ясен — адстаём...» І апладзіравалі яму, густа білі ў ладкі, не папраўлялі, бо «не положено».

Таму мушу сказаць: мова нацыі стала чужой у сваім доме перш за ўсё з-за шматгадовай імперскай палітыкі русіфікацыі, з-за таго, што нашы мясцовыя правадыры і правадырчыкі розных рангаў са скуры вылузваліся, каб дагадзіць сваім гаспадарам у Маскве. Яны дзесяцігоддзямі мэтанакіравана, прымусова-добраахвотна насаджалі рускую мову ва ўсіх сферах грамадскага і дзяржаўнага жыцця беларусаў. І трэба аддаць ім «належнае»: гэта атрымалася.

У такой моўнай сітуацыі свядомым беларусам трэба яшчэ больш згуртавацца. Бо чыноўнікі, «перабудаваўшыся» пад дэмакратаў, зноў крычаць, што наша мова «не человеческая». Адзінае, што я маю права сказаць у сувязі з гэтым: зразумейце, што «не человеческих языков» не бывае. Усе мовы — ад Бога. І наша — таксама.

# «Мы мусім не насаджаць мову, а абуджаць свядомасць»



**Раман КАРСЕКА, рэктар Беларускага эканамічнага універсітэта.**

— Рэктарам я стаў нядаўна, тры гады таму, але працую тут з 1965 года. Я сам нарадзіўся ў Стаўбцоўскім раёне, у вёсцы Ахрэмавічы. Я скончыў Нясвіжскую беларускую сярэднюю школу № 1. Гэта было ў 1953 годзе. Я гаварыў толькі па-беларуску і не мог нават падумаць, што калі-небудзь мне давядзецца аднаўляць веданне мовы. Але ж потым усё пайшло па-іншаму: інстытут, праца, аспірантура, праца ў тагачасным інстытуце народнай гаспадаркі — паўсюль было расійскамоўнае асяроддзе. Па-беларуску я гаварыў хіба што прыязджаючы ў вёску да сваякоў. Тое ж самае можа сказаць пра сябе шмат хто з нашых супрацоўнікаў. Таму вяртанне да таго, што калісьці было нормай, усе ў нас успрынялі станоўча, імкнучыся падтрымаць адраджэнне беларускасці. Іншая рэч тое, што гэта паступовы працэс, які патрабуе часу, гадоў. Вяртанне мове яе страчанага статуса павінна адбывацца няспынна і няспешна, каб не ператварыцца ў сваю супрацьлегласць. Мы мусім не насаджаць мову, а абуджаць свядомасць. І, як навучальная ўстанова, мы робім гэта па-свойму. За апошнія гады нашымі выкладчыкамі падрыхтавана некалькі падручнікаў і дапаможнікаў. Сярод нашых выданняў — «Кароткі эканамічны слоўнік», які ўтрымлівае вялікую колькасць спецыяльных тэрмінаў, неабходных нават тым эканамістам, якія валодаюць беларускай мовай. Бо ж мова павінна быць адроджана не толькі як сродак зносін, але і як мова навукі. Ва універсітэце створана новая кафедра, на якой выкладаецца прынцыпова новая дысцыпліна — эканамічная гісторыя Беларусі. Курс лекцый па эканамічнай гісторыі выдадзены намі асобнай кнігай і таксама па-беларуску. Далей — «Ангельска-беларускі слоўнік», падрыхтаваны нашымі супрацоўнікамі. Ён выкарыстоўваецца дзеля выкладання яшчэ адной новай для Беларусі дысцыпліны — вонкавай эканамічнай дзейнасці. А з гэтага года мы плануем усю падручную літаратуру друкаваць выключна на беларускай мове.

Сярод цяжкасцей, якія мы сустракаем, тая, што не ўсе студэнты падрыхтаваны да выкладання на дзяржаўнай мове. Тым не менш, ужо два гады на ўступных экзаменах абітурыенты здаюць іспыт па беларускай мове і літаратуры. Гэта датычыць амаль 95% будучых студэнтаў. І здаюць яго някепска. Гэта значыць, што аснова выкладання на беларускай мове існуе. Тым не менш, у навучальныя планы першакурснікаў мы ўключылі спецыяльны курс дзяржаўнай мовы. Для выкладчыкаў і студэнтаў нават створаны спецыяльны універсітэт беларускай мовы, гісторыі і культуры, які дзейнічае больш за год. Лекцыі яго навучэнцам чыталі Ніл Гілевіч, Міхаіл Біч, Аляксандр Булыка, Эдуард Загарульскі, філолаг Вінцук Вячорка, пісьменнік-гісторык Кастусь Тарасаў ды іншыя.

Тое, што адбываецца ў Эканамічным універсітэце — не вынік ажыццяўлення выключна маіх загадаў ці ініцыятывы выключна нашай суполкі Таварыства беларускай мовы. Гэта зыходзіць з усіх бакоў — і ад кіраўніцтва, і ад навуковай рады, і, канешне ж, ад арганізацыі Таварыства, сябрамі якой з'яўляюцца Мікалай Савіцкі, Аляксей Місуна, Пётр Рогач, Мікалай Сакалоўскі, многія іншыя выкладчыкі. Галоўнае тое, што яны, хай нават не з'яўляючыся сябрамі Таварыства, з ахвотай бяруцца чытаць лекцыі па-беларуску. Істотна і тое, што кафедру расійскай мовы, якая дагэтуль вывучаецца ва універсітэце, замяніла кафедра беларускай мовы, што папросту павысіла яе статус. Тое, чаго мы дасягнулі — вынік не адміністрацыйнай работы, а падтрымкі змен і студэнтамі, і выкладчыкамі.

Чаму мы робім тое, што робім? Мы спадзяёмся, што наша краіна будзе існаваць як дзяржава з уласнай палітыкай, эканомікай, культурай, а значыць і мовай. Мы спадзяёмся, што менавіта ў такой дзяржаве будуць працаваць нашы сённяшнія студэнты. Мы працуем на будучыню, на тое, каб Беларусь стала Беларуссю.

**У.ПАНАДА,**
**фота аўтара.**




ПРЫНАЛЕЖНАСЦЬ нацыянальная і прыналежнасць рэлігійная — у якой ступені звязаны паміж сабой гэтыя паняцці? Магчымасць існавання рэлігіі як веравызнання нацыі, стасункі паміж грамадзянамі дзяржавы — прадстаўнікамі розных вер і канфесій — адказы на гэтыя пытанні сёння шукае мноства людзей па ўсім свеце, бо міжнацыянальныя і міжрэлігійныя канфлікты дагэтуль застаюцца адной з прыкмет нашага часу. Дык якую ж ролю можа і мусіць адыгрываць Царква ў сучаснай нацыянальнай дзяржаве?

Адным з варыянтаў адказу на гэтае пытанне можа паслужыць прыклад сучаснай Расіі, у друку якой мноства грамадскіх, палітычных і рэлігійных дзеячаў гавораць аб сваёй любові да айчыны і заклікаюць да аднаўлення «святой Русі». Але што гэта такое — святая Русь — у які гістарычны момант яна існавала? Адказаць на гэтае пытанне гэтаксама цяжка, як паказаць на карце месцазнаходжанне горада Кіцежа. Выглядае на тое, што розныя палітычныя сілы імкнуцца выкарыстаць у сваіх палітычных мэтах нават паданні і міфы расійскай гісторыі. Так, на думку карэспандэнта «Радыё Свабода» ў Германіі Дзмітрыя Пазухіна, для большасці нацыянальна арыентаваных расійскіх палітыкаў хрысціянства, праваслаўе і Царква адыгрываюць выключна ролю інструмента пабудовы моцнай, маналітнай дзяржавы, якая, калі будзе створана, наўрад ці будзе спадкаемцай ідэалаў «святой Русі».

Як мяркуе Д.Пазухін, «усе больш ці менш уплывовыя апазіцыйныя групоўкі посткамуністычнай Расіі так ці інакш зарыентаваныя на нацыянальныя каштоўнасці. Усе яны, не выключаючы камуністаў (гэта бачна з публікацый у «Правде»), звязваюць гэтыя каштоўнасці з рэлігіяй, з праваслаўем. Тут можна згадаць Жырыноўскага, які з'яўляўся перад тэлекамерай з Бібліяй у руках і жагнаўся злева направа перад бабулькай, якая паспешліва яго папраўляла. А чаго варты хор абаронцаў «нашых праваслаўных братоў-сербаў», якія метадычна вынішчаюць цэлы народ у цэнтры Еўропы? Згадаю таксама і цудоўнага (у мінулым) пісьменніка, а цяпер прафесійнага расійскага патрыёта Валянціна Распуціна, хаця б адно ягонае выказванне аб блудным сыне Расіі, што вяртаецца ва ўлонне айчынных інтарэсаў. Гэта прымітыўная і, з пункту гледжання багаслоўя, безадказная гульня словамі нявартая такога майстра. Увогуле, у большасці праваслаўных расійскіх патрыётаў мяне здзіўляе поўнае багаслоўскае невуцтва, няздольнасць адрозніць пытанні рэлігійныя, нацыянальныя, палітычныя. Не выключана, праўда, свядомае іх блытанне. Цяпер у нас што моцы хрысціянствуюць, багаслоўствуюць і філасофствуюць людзі, якія не маюць ніякага ўяўлення аб ніводнай з гэтых сфер. Гэта ўвогуле наша спрадвечная асаблівасць — смела ўторквацца ў тое, што нам абсалютна не вядома. Між іншым, так было не заўжды. Класічныя заходнікі і славянафілы, напрыклад, былі людзьмі высокага філасофскага ўзроўню, здольнымі да паразумення. Сёння ж дыялог амаль немагчымы. Бо ён можа весціся толькі на падставе разважлівага аналізу, а не дэкларацый, такіх, напрыклад, як дэкларацыя Першага сусветнага рускага Сабора, якая без усялякіх аналічнасцей сцвярджае: асновай рускай нацыянальнай духоўнасці з'яўляецца праваслаўе. Ну, на тое і дэкларацыя. Але нічым не ўступае ёй у дэкларатыўнасці заява іерархаў Рускай праваслаўнай царквы, лідэраў і тэарэтыкаў расійскага патрыятычнага руху. Устрымаюся ад цытавання шырока вядомых бязлічных расійскіх патрыятычных лозунгаў мітрапаліта Санкт-Пецярбургскага і Ладажскага Іаана. Але нават ягоны апанент, адзін з самых асвечаных расійскіх іерархаў, мітрапаліт Смаленскі і Калінінградскі Кірыл не абцяжарвае сябе аргументацыяй. Адно толькі аднаўленне былой ролі Рускай праваслаўнай царквы, сцвярджае ён, у стане ўваскрасіць Расію і даць ёй моцы стаць святой Руссю (?!).

ПАНЯЦЦЕ «святая Русь» патрабуе, канешне ж, вельмі дакладнага гісторыка-багаслоўскага абгрунтавання. У іншым выпадку яно нічым не розніцца ад кожнага іншага слоўнага фантома, напрыклад, светлай камуністычнай будучыні. Увогуле, на «святой Русі» сходзяцца ўсе расійскія патрыёты — як асвечаныя, так і цемрашалы. Напрыклад, лідэр руху «Русь державная» Дзмітрый Мяркулаў сцвярджае, літаральна паўтараючы мітрапаліта Іаана: «Наш народны нацыянальна-дзяржаўны ідэал — ідэал магутнай і справядлівай праваслаўнай дзяржавы — святой Русі». На пытанне, хто ж будзе будаваць гэтую дзяржаву, ён адказвае: тыя, хто хіляцца да праваслаўя і час ад часу ўдзельнічаюць у набажэнствах, у тым ліку і камуністы, якія па-свойму вераць у Бога і лічаць сябе хрысціянамі. Ну што ж, гэтыя людзі, якія маюць багаты досвед камуністычнага будаўніцтва, здолеюць, спадзяюся, дамовіцца паміж сабой лічыць пабудаваную імі дзяржаву хрысціянскай. Паводле Мяркулава, хрышчэнне Русі мела, па сутнасці, тэхнічны характар і было патрэбна толькі дзеля аб'яднання паасобных княстваў і стварэння адзінай нацыянальнай дзяржавы. Цяпер дзеля дасягнення гэтай жа мэты патрэбна другое хрышчэнне. Святая Русь, такім чынам, аказваецца толькі прыступкай на шляху да Вялікай Расіі. Гэта значыць, што хрысціянства, праваслаўе, Царква маюць толькі тэхнічную, часовую вартасць, з'яўляюцца інструментам пабудовы маналітнай і моцнай дзяржавы. Ці ж гэта не спроба пабудовы царства божага на зямлі, якой расійскія патрыёты стала папракаюць былых камуністычных уладароў? Падобнае выкарыстанне хрысціянства вельмі трапна ахарактарызаваў мітрапаліт Кірыл — як разгляд і грубае выкарыстанне рэлігійнага фактара расійскімі нацыянальнымі сіламі ў якасці інструмента барацьбы».

АЛЕ ці маюць нейкае дачыненне да Беларусі спробы расійскіх нацыяналістаў выкарыстаць праваслаўе ў якасці чынніка палітычных і нацыянальных працэсаў? Адказам на гэтае пытанне можа паслужыць цытата з прамовы аднаго з іерархаў Рускай праваслаўнай царквы ў Беларусі, мітрапаліта Магілёўскага і Мсціслаўскага Максіма, надрукаванай 29 красавіка 1993 года ў газеце «Вестник Могилёва» і перадрукаваная нават польскім штомесячнікам «Часопіс»: «Наша земля — Россия, в полном смысле слова. Ибо россиянами должны быть и белорусы, и украинцы, то есть все славянские народы. Вот это и есть Россия, со всеми другими народами, её населяющими.

А жить отдельно от России трудно и не только Беларуси. Поэтому сегодня политики и ищут выход из создавшихся «суверенитетных» трудностей».

Але ж прапагандысты рэлігіі як фактара нацыянальнага і дзяржаўнага адзінства забываюцца аб тым, што вызнанне веры ёсць справа абсалютна незалежная ад грамадзянства ці нацыянальнай прыналежнасці асобы. І найлепш гэта пацвярджае этнаканфесійная сітуацыя, што склалася сёння ў суседняй Беларусі Латвіі. Менавіта яе разгляду прысвечана інтэрв'ю журналіста Юрыса Рубеніса з Леонам Тайванам — доктарам тэалогіі, прафесарам багаслоўскага факультэта Латвійскага універсітэта, якое прагучала ў праграме РС «Рэлігія ў сучасным свеце»:

**— Аб чым трэба ведаць, каб зразумець сённяшнюю сітуацыю ў Латвіі?**

*— Рэлігійная сітуацыя ў Латвіі склалася як вынік яе геаграфічнага становішча і асаблівасцей гісторыі краю. На поўначы Латвія мяжуе з Эстоніяй — краінай, дзе пераважае лютэранская канфесія. На поўначы — каталіцкая Літва. У выніку гэтага большасць насельніцтва на поўначы краіны вызнае пратэстантызм, а поўдзень з'яўляецца каталіцкім. З усходу Латвія мяжуе з Расіяй, адкуль прыйшла «руская вера» — праваслаўе. Такім чынам у нас тры буйнейшыя гістарычныя хрысціянскія канфесіі. Хрысціянства ў Латвіі з'явілася на два стагоддзі пазней, чым у Расіі, — у XII стагоддзі. Яго прынеслі крыжакі падчас паўночных крыжовых паходаў. Калі ў XVI стагоддзі ў Германіі адбылася Рэфармацыя, яна адначасова ахапіла і Латвію. Так паўстала лютэранства. Што датычыць праваслаўя, дык яно было вядома яшчэ да прыходу немцаў — ад суседніх славянскіх плямёнаў. Аднак значнае распаўсюджванне праваслаўе атрымала толькі пасля далучэння Латвіі да Расійскай імперыі згодна з Нейштадскім мірным дагаворам 1721 года.*

### МЕРКАВАННІ

**— Якая этнаканфесійная сітуацыя сёння?**

*— У час існавання Расійскай імперыі паўночныя, пратэстанцкія раёны краю былі найбольш развітымі. І значную ролю ў гэтым адыгралі каноны лютэранства. Савецкі час многае змяніў. Сістэма стварала і стварыла новы тып чалавека. Сёння каталік адрозніваецца ад лютэраніна толькі тым, у які храм ён ходзіць па нядзелях. Паводзіны людзей ні на працы, ні дома нічым не адрозніваюцца. Што датычыць праваслаўя, дык ад іншых канфесій гэта адрозніваецца сваёй «рускасцю».*

**— Якія адносіны складаюцца паміж прадстаўнікамі розных канфесій?**

*— Адносіны паміж хрысціянамі ўсіх нацыянальнасцей вельмі добрыя. Хрысціянства несумяшчальна з нацыянальнай варожасцю. Наадварот, прыналежнасць да яго далучае да высокай культуры. Бо рускі чалавек, які ў святыні чуе царкоўнаславянскую мову, без цяжкасці можа карыстацца скарбам рускай літаратуры, чаго не скажаш пра тых, дазвольце сказаць, інтэлігентаў, у якіх гісторыя рускай культуры пачынаецца Пушкіным са школьнага падручніка. Царква прывучае і да традыцыйнай архітэктуры, іканапісу, дэкаратыўнага мастацтва. Хрысціянін, асабліва калі ён яшчэ і свецка адукаваны, лепш разумее чужую культуру, бо ён знаёмы з глыбінямі сваёй. У гэтым — падстава да ўзаемаразумення і ўзаемнай павагі. Свае словы я пацверджу такім прыкладам: з часоў расійскага цара Аляксея Міхайлавіча, г.зн. з XVII стагоддзя, у Латвіі пачалі сяліцца ўцекачы з Расіі — стараабрадцы, якіх там жорстка праследвалі. Тут яны хутка заваявалі агульную павагу сваёй ахайнасцю, руплівасцю, цвярозасцю і сумленнасцю. Стараабрадцы разам з іх самабытнай і складанай культурай дагэтуль застаюцца паважанай у Латвіі нацыянальна-рэлігійнай супольнасцю.*

*На жаль, праваслаўнае насельніцтва — гэта толькі трохі больш як 200000 асоб з усяго так званага нелатышскамоўнага насельніцтва, лік якога перавышае мільён. Што гэта за людзі? Гэта людзі ўжо згаданай новай, сацыялістычнай фармацыі. Гэта людзі перасеmenыя, адарваныя ад нацыянальных каранёў. Такіх людзей шмат па ўсім былым Савецкім Саюзе. У Расіі яны мала заўважныя, бо гавораць, як і ўсе, на расійскай мове. А ў былых нацыянальных ускраінах, а цяпер — у самастойных дзяржавах — яны адметныя праз іншасць мовы. Таму іх працей тут заўважыць. І менавіта таму ўзнікае ўяўленне аб нацыянальных супярэчнасцях. Але ж гэта людзі без духоўных памкненняў. Іх яны кампенсуюць клопатам аб сваім матэрыяльным стане. Яны схільныя перабольшваць аб'ектыўныя цяжкасці, ва ўсім абвінавачваць іншых. Калі ж узнікае неабходнасць узяць на сябе адказнасць перад грамадствам за тую ці іншую справу, мы не можам іх адшукаць.*

*Хрысціянства вучыць думаць аб іншых, ставіць перад уласнымі інтарэсы іншых. І сям'я, грамадства, дзяржава і нават цывілізацыя могуць існаваць пры ўмове, што кожны аддае частку свайго жыцця іншым. Таму я прытрымліваюся думкі, што хрысціянства без нацыянальных адрозненняў ёсць чыннік міру і ўзаемнага разумення ў нашай шматнацыянальнай і шматканфесійнай краіне.*

ДУМАЮ, падсумаваннем параўнання розных поглядаў на ролю рэлігіі ў нацыянальным жыцці могуць стаць словы расійскага рэлігіязнаўцы Грыгорыя Памеранца: «Народнае, пляменнае было вышэйшым і супадала з богам ДА сусветных рэлігій. Сусветныя рэлігіі падкрэслілі каштоўнасць асобы. Толькі асоба мае бессмяротную душу — народы смяротныя». У рэлігійна-нацыяналістычных тэорыях, дзе б яны ні ствараліся, Памеранц бачыць праяву паганства, бо тыя, што ператвараюць пытанні веры ў пытанні палітыкі, урухамляюць някіраваныя механізмы грамадства, здольныя толькі да разбурэння.

**Падрыхтаваў У.ПАНАДА.**

*Мікалай КРЫЎКО*

# Дзесяцігадовы плён мовазнаўства

Нядаўна выйшаў у свет бібліяграфічны паказальнік «Беларускае мовазнаўства», дзе пералічаны ўсе апублікаваныя даследаванні мовазнаўцаў, а таксама асобныя працы фалькларыстаў, літаратуразнаўцаў, пісьменнікаў, у якіх ёсць звесткі па беларускай мове. Яго падрыхтавалі старшы бібліёграф Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Беларусі А.Д.Васілеўская і старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі Я.М.Рамановіч. Паказальнік ахоплівае перыяд 1976—1985 гадоў. Гэта ўжо трэці даведнік. Першы выйшаў у 1967 годзе, у ім - летапіс напісанага пра нашу мову з 1825 па 1965 год — 3514 прац, другі — у 1980 годзе — 3320 прац, апублікаваных за перыяд 1966—1975 гадоў. У гэтым, трэцім, паказальніку 4095 прац.

Лічбы ўражваюць і гавораць пра тое, якімі высокімі тэмпамі ішло нарошчванне навуковых распрацовак беларускай мовы. Мы бачым, што калі за 140 гадоў (да 1965 г.) было апублікавана 3514 прац, то толькі за адно наступнае дзесяцігоддзе выйшла з друку столькі ж, апошнім часам яшчэ на тысячу больш. Праўда, і гэтыя лічбы не аб'ектыўныя. Скажам, фундаментальны пяцітомны «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак» быў падрыхтаваны ў 70-я гады, а першы том атласа пабачыў свет толькі ў канцы 1993 года. Тое ж можна сказаць і пра шматтомныя выданні «Гістарычны слоўнік беларускай мовы», «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» ды іншыя працы.

Апошні выпуск даведніка «Беларускае мовазнаўства» структурна складаецца з прадмовы «Ад складальнікаў», з аглядавага артыкула прафесара Л.М.Шакуна «Вывучэнне беларускай мовы ў 1976—1985 гг.» і з пяці тэматычных раздзелаў, дзе падаецца бібліяграфія: «Праблема паходжання і развіцця беларускай мовы і яе вывучэнне» (з сваімі падраздзеламі: агульныя пытанні; сацыялінгвістыка; гісторыя даследавання беларускай мовы; работа навуковых установ у галіне беларускага мовазнаўства; навуковыя нарады, з'езды; персаналіі), «Гісторыя беларускай мовы» (з неабходнымі падраздзеламі), «Дыялекталогія. Лінгвістычная геаграфія» (з падраздзеламі: агульныя пытанні; характарыстыка і геаграфічнае распаўсюджанне дыялектных асаблівасцей; вывучэнне асобных дыялектаў; дыялектная лексікалогія; умоўныя мовы і жаргоны; лексікаграфія; фразеалогія; мова фальклору; этналінгвістыка), «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» (з падраздзеламі: агульныя пытанні; старажытны перыяд; новы перыяд), «Сучасная беларуская літаратурная мова» (з 22 падраздзеламі). Далей у кнізе надрукаваны спіс выкарыстаных крыніц, сярод іх 494 тэматычныя зборнікі, што выйшлі ў 1976—1985 гадах, а таксама 34 часопісы і некалькі газет гэтага перыяду ды 40 паказальнікаў, матэрыял па мове з якіх выкарыстоўваўся пры падрыхтоўцы даведніка.

Завяршае кнігу імянны паказальнік, дзе змешчана 1258 імён вучоных-мовазнаўцаў і іншых спецыялістаў, якія ў той ці іншай меры займаліся распрацоўкай пытанняў беларускай мовы ў 1976—1985 гг. Тут жа пасля прозвішча падаюцца нумары пазіцый прац аўтара. Праўда, гэты паказальнік не зусім аб'ектыўны. Не адзначаны ў даведніку прозвішчы аўтараў пяцітомнага Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы і ў той жа час прозвішча К.Крапівы, сімвалічна прыпісанага да гэтага слоўніка ў якасці агульнага рэдактара, падаецца. К.Крапіва не рэдагаваў гэтага слоўніка. ТСБМ рыхтаваў шматлікі калектыў спецыялістаў, а рэдагавалі — рэдактары тамоў і іх памочнікі. Іншая справа, што за слоўнік атрымаўся (аб'ектыўную ацэнку яму далі ў свой час П.Садоўскі ды іншыя спецыялісты, а ў прадмове да гэтага бібліяграфічнага даведніка — прафесар Л.М.Шакун). Схаванымі засталіся аўтары некаторых іншых прац, асабліва тых, дзе прозвішчы адсутнічаюць на тытуле ці на яго адваротным баку, а пададзены толькі ў прадмове да выдання.

У той жа час даведнік і асабліва яго паказальнік дае добрае ўяўленне, хто са спецыялістаў і ў якой ступені займаўся распрацоўкай беларускай мовы ў адзначаны часавы прамежак. Так, сярод мовазнаўцаў старэйшага пакалення, каму сёння каля сямідзесяці ці за семдзесят гадоў, найбольш плённа працавалі А.С.Аксамітаў, У.В.Анічэнка, А.Я.Баханькоў, М.В.Бірыла, М.Г.Булахаў, М.С.Васілеўскі, І.К.Германовіч, А.П.Груца, А.І.Жураўскі, І.С.Козыраў, А.А.Крывіцкі, І.Я.Лепешаў, Ю.Ф.Мацкевіч, Е.С.Мяцельская, А.І.Наркевіч, М.А.Паўленка, Я.М.Рамановіч, А.І.Чабярук, Л.М.Шакун, П.П.Шуба, Ф.М.Янкоўскі, М.С.Яўневіч і інш. Значны ўклад у распрацоўку моўнай праблематыкі ўнеслі спецыялісты, каму сёння каля шасцідзесяці або крыху больш, чым шэсцьдзесят гадоў, сярод іх можна назваць такія імёны, як Я.М.Адамовіч, Э.Д.Блінава, А.М.Булыка, Л.І.Бурак, М.Ц.Кавалёва, Я.М.Камароўскі, А.А.Каўрус, Ф.Д.Клімчук, В.П.Красней, В.П.Лемцюгова, Г.М.Малажай, А.Я.Міхневіч, А.І.Падлужны, К.М.Панюціч, У.А.Сарока, П.У.Сцяцко, Г.А.Цыхун, І.Я.Яшкін. Сярод больш маладых мовазнаўцаў, што вызначыліся ў гэты перыяд, былі: М.В.Абабурка, М.М.Аляхновіч, Л.А.Антанюк, Т.П.Бандарэнка, Г.Ф.Вештарт, Л.Ц.Выгонная, Н.В.Гаўрош, А.А.Гіруцкі, М.Ф.Гуліцкі, Р.М.Казлова, Д.Д.Паўлавец, М.Р.Прыгодзіч, В.І.Рагаўцоў, З.А.Рудакоўская, П.В.Садоўскі, У.М.Свяжынскі, А.А.Станкевіч, Т.І.Тамашэвіч, Т.М.Трыпуціна, В.В.Шур і інш.

У гэты бібліяграфічны паказальнік уключаны кнігі, артыкулы з перыядычных выданняў, альманахаў, тэматычных зборнікаў, аўтарэфераты доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый, тэзісы дакладаў на з'ездах і канферэнцыях, матэрыялы з газет і часопісаў на беларускай, рускай, украінскай і нават на польскай і літоўскай мовах. Знайшлі ў паказальніку адлюстраванне падручнікі і метадычныя матэрыялы для ВНУ. Называюцца таксама працы, у якіх ёсць асобныя заўвагі пра беларускую мову, што маюць цікавасць для даследчыкаў. Падаюцца ў даведніку таксама рэцэнзіі на кнігі і артыкулы па беларускім мовазнаўстве. Некаторыя працы ў даведніку забяспечаны кароткімі анатацыямі, дзе ўдакладняецца аб'ём матэрыялу, што даследуецца, і абгрунтоўваецца аднясенне яго да той ці іншай рубрыкі.

Даведнік «Беларускае мовазнаўства. Бібліяграфічны паказальнік. 1976—1985» будзе настольнай кнігай лінгвіста і ўсіх, хто цікавіцца нашай мовай, фактычным яе багаццем і гісторыяй яе вывучэння. Выклікае толькі шкадаванне, што такі патрэбны даведнік можа не трапіць да кожнага спецыяліста і да таго, хто хацеў бы яго мець, бо выйшаў ён мізэрным накладам у 450 паасобнікаў.

Кніга «Беларускае мовазнаўства...» вялікая па аб'ёму, займае амаль 600 старонак. Зразумела, у даведніку такога памеру непазбежныя недахопы і недагляды. Так, слоўнік Л.Ф.Шаталавай «Беларускае дыялектнае слова» 1975 года выдання трапіў у гэты паказальнік, які ахоплівае перыяд 1976—1985 гады (№ 1118). Ён (слоўнік) ёсць і ў ранейшым даведніку — пад нумарам 1547. Праца па лексікалогіі Д.М.Карацінскай «Лексічная аманімія назоўнікаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове» (№ 2565) памылкова трапіла ў раздзел «Сінтаксіс». «Антрапанімічныя эцюды» А.К.Усціновіч (№ 3216) аднесены ў падраздзел «Тапаніміка», хоць павінны быць у падраздзеле «Антрапанімія», астатнія ж працы такога роду гэтай даследчыцы (нават з гэтакай жа назвай) пададзены на належным месцы. Манаграфія А.Я.Міхневіча «Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы» (№ 2569) выйшла ў 1976 годзе, а ў даведніку пазначана 1987 г. № 409 у кнізе адсутнічае зусім, хоць у імянным паказальніку ён пададзены пад прозвішчам М.Г.Булахава. Артыкул А.І.Падлужнага ў тэксце кнігі пададзены пад № 300, а ў імянным паказальніку пад № 301. Рэцэнзія І.С.Козырава (№ 119) на працу М.Г.Булахава згадваецца двойчы — першы раз у пачатку спісу, другі раз — у канцы. У імянным паказальніку ў абсалютнай большасці выпадкаў працы аднаго і таго ж аўтара падаюцца пад беларускім варыянтам прозвішча, а расійскі варыянт на сваім месцы адсылаецца да беларускага паметай гл. (глядзі), але ёсць і парушэнні. Так, у розных месцах без спасылкі на беларускі варыянт прыведзены працы М.А.Аўласевіча (і пад Аўласевіч М.А. і пад Авласевич М.А.). Адны працы А.К.Усціновіч пададзены пад варыянтам Усціновіч А.К., другія — пад варыянтам Усціновіч Г.К. Даследчыца Тамара Бандарэнка ў імянны паказальнік трапіла як Бандарэнка М., а прозвішча прафесара Г.М.Мязенкі і ў тэксце кнігі (№ 2443) і ў паказальніку пададзена памылкова — Мазенка Г.М. Прозвішчы даследчыкаў Я.Саламевіча, А.С.Саломеніка і Н.І.Самойлы ў імянным паказальніку амаль немагчыма знайсці, яны там ёсць, але далёка не на сваім алфавітным месцы, на іншай 549-й, старонцы. Прыклады прыкрых недаглядаў можна было б доўжыць. Іх, відаць, было б менш, каб быў належна і ўважліва адрэдагаваны машынапісны тэкст даведніка з навуковага і тэхнічнага боку.

Зробленыя тут заўвагі не зніжаюць вялікай вартасці гэтай так патрэбнай працы.

# НАЗВЫ МЕСЯЦАЎ ПАВОДЛЕ АНДРЭЯ РЫМШЫ

Андрэй Рымша сёння нам вядомы тым, што ён даў жыццё першаму асобна выдадзенаму твору беларускай паэзіі, якому вучоныя далі назву «Храналогія». Адзіны, які захаваўся, экземпляр гэтага моўнага, літаратурнага і гістарычнага помніка ўсходніх славян (так, так, і ўкраінцы, і расійцы даводзяць, што гэты твор належыць ім. Гэтак жа мяркуюць і жэмайты. Што ж, мы людзі шчодрыя і не будзем спрачацца з іхнімі даследнікамі) сёння знаходзіцца на неўскіх берагах — у Санкт-Пецярбургу.

Некалькі слоў пра А.Рымшу. Нарадзіўся ён каля 1550 года ў Пяньчыне (зараз вёска Пяньчын каля Гарадзішча Баранавіцкага раёна). Недалёка адсюль, як даводзяць некаторыя даследнікі, у вёсцы Петкавічы нарадзіўся яго сучаснік — славуты Іван Фёдараў, першы расійскі і ўкраінскі друкар. І вось дзіўныя супадзенні: менавіта ў друкарні І.Фёдарава ў горадзе Астрог надрукуюць першы твор А.Рымшы — «Храналогію». Адбылося гэта ў 1581 годзе. Вядомы наш суайчыннік і як буйны ваенны спецыяліст Вялікага Княства Літоўскага і аўтар вельмі цікавых і павучальных панегірычных вершаў, паэм і перакладаў.

Але вернемся да «Храналогіі». Гэта яшчэ і першы друкаваны ўсходнеславянскі каляндар, дзе кожнаму месяцу — назвы іх падаюцца на лацінскай, гебрайскай і старажытнабеларускай мовах — прысвечаны па два радкі. І яшчэ: аўтар у кожным гэтым месяцы адзначае самы, на яго думку, значны паводле біблейскіх падзей дзень.

Пачынаецца «Храналогія» (аўтарская назва яму «Которого ся месяца што за старых веков деело короткое описание») з верасня. Дзівіцца гэтаму няма патрэбы, так у часы Рымшы пачынаўся новы год на нашых землях:

Месяца сентебра, по гебрейску елюль, просто вресень.
Двадъцать четвертого дня месяца сенътебра
Дороблен Еросолим, сталася реч добра.

А цяпер зробім раскладку гэтага і іншых месяцаў:

| Паводле А.Рымшы | | | Старажытнаславянская мова | Сучасная беларуская назва |
|---|---|---|---|---|
| Лацінская мова | Гебрэйская (яўрэйская мова) | Старажытнабеларуская мова | | |
| Месяца: | | | | |
| сентебра | еюль | вресень | рюенъ | верасень |
| октовриа | тышри | паздерник | листопадъ,листогонъ | кастрычнік |
| ноемвриа | маргеусам | груденъ | грудьнъ | лістапад |
| декавриа | кашлеу | просинец | студенъ | снежань |
| генуара | тебет | стычень | просиньц | студзень |
| февраля | себат | лютый | сьченъ | люты |
| марта | адар | марец | сухъ | сакавік |
| априля | нисан | кветень | брьзьнъ | красавік |
| мая | имю | май | тревьнъ | май, травень |
| июня | сыван | чырвец | изокъ | чэрвень |
| июля | тамус | липец | чръвенъ | ліпень |
| августа | аов,ав | серпень | заревъ | жнівень |

Як бачна з параўнальнай табліцы, у часы А.Рымшы наша мова некалькі адрознівалася ад моў нашых усходніх і паўднёвых суседзяў-славян і развівалася паводле сваіх законаў, што ўрэшце рэшт адбылося і з назвамі некаторых месяцаў, якія з цягам часу атрымалі новыя назвы і гучанне.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ, правадзейны член Геаграфічнага таварыства. г.Баранавічы.**

*МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА «БЕЛАРУСКІЯ ІМЁНЫ»*

*Сымон БАРЫС*

# Як у нас клічуць?

## *Мужчынскія імёны.*

*(Працяг.)*

**Дамаслаў.** Домослав (слав.) — той, хто ўслаўляе свой дом. Вытв.: Дамік, Дамась, Дамаш. Імя па бацьку — Дамаслававіч, Дамаславаўна і Дамаславіч, Дамаславічна.

**Дар.** Дарий (грэч.) — ад імені персідскага цара, магчыма, «той, хто валодае». Вытв.: Дарык, Дарук, Дарысь,Дарыш. Імяніны кат. 19.12. Імя па бацьку — Даравіч, Дараўна.

**Дарафей. Дорах.** Дорофей (грэч.) — дар Божы. Разм. Дарахвей. Вытв.: Дарцісь, Дарук, Дораш, Дарошка, Дарацей. Імяніны: 10.01; 18.06; 16,29.09; 20.11. Імя па бацьку — Дарафеевіч, Дарафееўна і Дорахавіч, Дорахаўна.

**Дзямянцей.** Дементиан (лац.) — ад рымскага родавага імені, магчыма ад demento — тугадум. Вытв.: Дзёма, Дзёмка, Дзёмачка, Дземех. Імяніны 28.04. Імя па бацьку — Дземянцеевіч, Дземянцееўна.

**Дзямід.** Диомид (грэч.) — Боская апека. Вытв.: Дзёма, Дзёмачка, Дзёмка, Дзёмчык, Дзіма, Дзімачка. Імяніны: 16.07; 29.08. Імя па бацьку — Дзямідавіч, Дзямідаўна.

**Дзям'ян.** Дамиан (грэч.) — утаймаваны. Разм.: Дзямян, Даман. Вытв.: Дзям'янка, Дзямянка, Дзямянчык, Дзёма, Дзёмка, Дзёмачка, Дзямаш, Дзямчыла, Дамян. Імяніны: пр. 8.03; 14.07; 11,18,30.10; 14.11; кат. Дамян — 23.02; 26,27.09. Імя па бацьку — Дзям'янавіч, Дзям'янаўна.

**Дзяніс.** Дионисий (грэч.) — прысвечаны богу віна, вінаробства, паэтычнага натхнення і вясёлых народных гульняў. Вытв.: Дзянісік, Дзяніска, Дзянук, Дзянісь, Дзіня, Дзінёк, Дзінечак, Дзінька. Імяніны: пр. 23,28.03; 4,19,25,31.05; 14,16. 06; 6,9.07; 17,31.08; 10.09; 16.10; 4.11; кат. 8.04; 2,9.10; 26.12. Імя па бацьку — Дзянісавіч, Дзянісаўна.

**Жаліслаў.** Жалислав (слав.) Імя па бацьку — Жаліславіч, Жаліславічна.

**Елісей.** Алісей. Елисей (яўр.) — выратаваны Богам. Вытв.: Елісейка, Алісейчык. Імяніны 27.06. Імя па бацьку —Елісеевіч, Елісееўна і Алісеевіч, Алісееўна.

**Ерамей. Верамей.** Иеремия (яўр.) — узвышаны Богам. Разм.: Ярома. Вытв.: Ерамейка, Верамейка, Яромка, Яромчык. Імяніны: 1.03; 14.05; 11,18.10. Імя па бацьку — Ерамеевіч, Ерамееўна і Верамеевіч, Верамееўна.

**Ерафей.** Иерофей (грэч.) — асвячоны Богам. Разм.: Рахцей, Рахвей. Вытв.: Яраш, Ярош, Яроха, Ярошка, Ярусь. Імяніны 17.10. Імя па бацьку — Ерафеевіч, Ерафееўна.

**Ермаген. Гермаген.** Ермаген. Імяніны пр.: 2.03; 25.05. Імя па бацьку — Ермагенавіч, Ермагенаўна і Гермагенавіч, Гермагенаўна.

**Епіфан.** Епифаний (грэч.) — з'яўленне. Вытв.: Апіфан, Епіфанік. Імяніны: 25.03; 22.11. Імя па бацьку — Епіфанавіч, Епіфанаўна.

**Еўсцігней.** Евстигней. Імя па бацьку—Еўсцігнеевіч, Еўсцігнееўна.

